**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.19, 20.03, 13.44;
Віцебск — 6.07, 19.55, 13.48;
Магілёў — 6.08, 19.52, 13.43;
Гомель — 6.06, 19.48, 13.42;
Гродна — 6.32, 20.19, 13.47;
Брэст — 6.38, 20.13, 13.27.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 10 красавіка.

**ІМЯНІНЫ:**
Марка, Кірыла, Івана, Астапа; Ляона, Філіпа.

# ЗВЯЗДА

11 КРАСАВІКА 1992 г.
субота, № 75 (21853)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

## РОЗГАЛАС

### СУСТРЭЧЫ Ў ДОМЕ ЎРАДА

Учора Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіч прыняў групу індыйскіх бізнесменаў — дырэктара аб'яднання фірм «Сіфка» пана Сетна і дырэктара фірмы «Мюлер і Пфіпс» пана Дупелія. Вячаслаў Францавіч расказаў гасцям аб сітуацыі ў рэспубліцы, пазнаёміў іх з яе справамі і праблемамі. Ён асабліва падкрэсліў зацікаўленасць Беларусі ў наладжванні цесных эканамічных і гандлёвых сувязей з Індыяй, якія пасля распаду СССР аказаліся разарванымі.

Індыйскія госці падзяліліся сваімі планамі аб устанаўленні трывалых дзелавых кантактаў з нашай рэспублікай, выказаліся за стварэнне Беларуска-індыйскай гандлёвай палаты, якая садзейнічала б развіццю такіх кантактаў. Ад імя індыйскага ўрада госці перадалі В. Кебічу запрашэнне наведаць Індыю. Запрашэнне з удзячнасцю прынята.

У сустрэчы з індыйскімі бізнесменамі ўдзельнічаў старшыня Саюза прадпрымальнікаў Беларусі У. Карагін.

У той жа дзень В. Кебіч сустрэўся ў Доме ўрада з дэлегацыяй прэфектуры Акіта (Японія), якую ўзначальваў губернатар пан Сасакі Кікуджы. У ходзе дружалюбнай гутаркі Вячаслаў Францавіч падзякаваў гасцям за аказаную дапамогу ахвярам чарнобыльскай катастрофы. Ён выказаў пажаданне, каб тыя добрыя адносіны, якія завязаліся паміж нашымі краінамі пасля мінулагодняга візіту беларускай урадавай дэлегацыі ў Японію, былі пераведзены ў плоскасць канкрэтных спраў. У прыватнасці, выказана ідэя скарыстаць багаты японскі вопыт у вытворчасці медыцынскага дыягнастычнага абсталявання, што асабліва актуальна для нашай рэспублікі. Абмеркаваны і некаторыя іншыя пытанні.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

### ВІЗІТ У АДКАЗ

Губернатар прэфектуры Акіта пан Сасакі Кікуджы прыбыў учора ў сталіцу Беларусі. Гэта яго візіт у адказ на знаходжанне ў Японіі ўрадавай дэлегацыі нашай рэспублікі. Госця прыняў і меў з ім працяглую гутарку Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч.

Бакі дагаварыліся аб падтрыманні пастаянных кантактаў розных узроўняў.

### Піце гарбату з цукеркамі

**Чытачы газеты захваляваліся: прапаў цукар. Ды і наконт гарэлкі, між іншым, задаюць пытанні.**

**Пачнём з гарэлкі. Яна ёсць і будзе. Стаіць у віннагарэлачных аддзелах і пакуль што знікаць не збіраецца. Калі ёсць у вас віннагарэлачныя талоны, купоны і грошы — набывайце. Няма талонаў і купонаў, тады бярыце грошы і за 140—150 рублёў зможаце набыць гарэлку ў камерцыйных магазінах.**

**Цяпер пра цукар. Як паведаміла нам начальнік аддзела прадуктаў харчавання ўпраўлення гандлю Мінгарвыканкома Валянціна Кавалеўская, цукру няма. Чакаюцца паступленні з Украіны. Але адтуль пакуль што яго не даюць. А каб забяспечыць жыхароў горада Мінска, на месяц патрэбны хоць бы 2 тысячы тон цукру.**

**Больш падрабязную інфармацыю мы паспрабавалі атрымаць у дырэктара Мінскага абласнога арэнднага аб'яднання «Бакалея». На жаль, ні дырэктара, ні намесніка, карацей кажучы, нікога, хто мог бы растлумачыць і праясніць сітуацыю, на месцы не аказалася. Так што прыйдзецца задаволіцца (зноў жа пакуль) толькі такой інфармацыяй.**

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

### ПАКРЫЎДЗІЛІ ПАЛІЦЭЙСКАГА

**КАРМА. Адказваць дабром на дабро — няпісанае людское правіла. І вельмі шкада, што яшчэ сустракаюцца такія, хто сваімі ганебнымі ўчынкамі крыўдзіць людзей, якія ўсёй душой імкнуцца дапамагчы нам. Менавіта на такія разважанні наводзіць наступны факт.**

**У вёску Клямінская Буда з Германіі прывезлі гуманітарную дапамогу. Пры яе разгрузцы і размеркаванні ў паліцэйскага Арно Нюнке, які суправаджаў груз, знікла куртка, у якой знаходзіліся пашпарт, службовае пасведчанне, чэкавая кніжка і 9.660 марак. Вось так «аддзячылі» чалавеку, які прывёз чарнобыльскім дзецям прадукты харчавання і падарункі. Вельмі прыкра!**

### Карп на самаабслугоўванні

ЖЫТКАВІЧЫ (**У. Пернікаў**). Дзве буйнейшыя ў рэспубліцы рыбагаспадаркі «Чырвоная зорка» і «Белая» вось ужо які час зведваюць вострую патрэбу ў камбікармах.

Калі з-за недахвату іх летась было недабрана амаль 900 тон карпаў і шчупакоў, дык сёлета, мяркуючы па ўсім, гэта лічба павялічыцца.

Справа ў тым, што рыбагаспадаркі дагэтуль не маюць магчымасці заключыць дагаворы на пастаўку корму. Значыць, шукай карп сабе матыля, пераходзь на самаабслугоўванне. Дык адкуль жа быць яго прывагам?

### ШМАТРАЗОВЫЯ КУПОНЫ ДРУКУЮЦЦА

**Толькі такую інфармацыю маем мы на дадзены момант. Намеснік старшыні Нацыянальнага банка РБ Валянцін Заяш ахарактарызаваў мусіруемую зараз інфармацыю па шматразовых купонах, як недакладную, а іншы раз — проста «ліпу».**

**Валянцін Васільевіч паабяцаў нам даць поўную і дакладную інфармацыю па шматразовых купонах у хуткім часе.**

**Мы ж сёння можам паведаміць, што, па неправераных даных, новыя купоны з'яўляюцца сапраўднымі грашамі вартасцю 1, 3, 5, 25, 50, 100 і 200 рублёў. Ільічом на іх і не пахне. Прыярытэт аддадзены звярам — мядзведзю, рысі і г. д.**

**Колькі надрукавана такіх купонаў, калі яны пачнуць выцясняць аднаразовыя і што будзе з цяперашнімі рублямі? На гэтыя пытанні адказаць павінен наш Вярхоўны Савет, на разгляд якога рыхтуецца праект па ўводу шматразовых купонаў у абарачэнне.**

### «МАНУМЕНТАЛЬНАЕ МАСТАЦТВА ПАВІННА ПРАПАГАНДАВАЦЬ БЕЛАРУСКУЮ ГІСТОРЫЮ»

**У штотыднёвіку «Наша слова» прамільгнула кароценькая заметка: аб'яўляецца конкурс праектаў помніка ўдзельнікам вядомага Слуцкага паўстання 1920 года. Клуб «Спадчына» на чале з кіраўніком Анатолем Белым, які аб'явіў гэты конкурс, пры ажыццяўленні сваёй ідэі, відаць, упершыню і ўсур'ёз парушыць пакуль існуючую манаполію беларускай савецкай манументальнай скульптуры.**

— Праедзьце па нашых гарадах і вёсках, — гаворыць А. Белы, — і агледзьце ўсе помнікі на гераічную тэматыку. Што можна аб іх сказаць? Яны — на адзін капыл: дамінуюць партызан, партызанка, чырвонаармеец і г. д. Так яно было, і інакш быць не магло. Адразу пасля рэвалюцыі Ленін зацвердзіў план развіцця манументальнага мастацтва як магутнага сродку прапаганды рэвалюцыйных ідэй сярод народных мас. Увасабленню ў камені і бронзе падлягалі постаці Рабесп'ера, Бакуніна, Маркса, іншых вядомых рэвалюцыянераў. Вядома нават, што Ленін патрабаваў жорстка караць тых, хто тармазіў ці зрываў справу, хоць на тое былі і аб'ектыўныя прычыны: у 1918 годзе, як і цяпер, у краіне не хапала ні бронзы, ні чыгуну, ні іншага металу. Праўда, за сем дзесяцігоддзяў плошчы нашых гарадоў усё ж наваднілі штампоўкамі, якія нават з вялікай нацяжкай не назавеш творамі мастацтва. І за ўсе гэтыя гады, калі і ўзнікалі нейкія адметныя ідэі ці праекты, што не адпавядалі прынятым законам, то яны адразу ж знішчаліся на корані.

Дык вось, мэта гэтага конкурсу — унесці новы накірунак у наша манументальнае мастацтва, адышоўшы ад старых канонаў. Перш за ўсё тут павінна прапагандавацца наша слаўная гісторыя, наш нацыянальны светапогляд. Я спадзяюся, што гэтая ідэя будзе ўспрынята і падтрымана. Клуб «Спадчына» пры падтрымцы сваіх фундатараў мае намер стварыць помнікі Каліноўскаму, Шырме, Гусоўскаму, братам Луцкевічам, мы хочам таксама адліць у бронзе нашу «Пагоню», ужо гатовы помнік Багдановічу — неўзабаве ён будзе ўстаноўлены ў Яраслаўлі.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

### Адбудуцца візіты ў Італію

**РЫМ. (Кар. ІТАР—ТАСС Аляксей Галяеў). Прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч і прэм'ер-міністр Украіны Вітольд Фокін прыбудуць з візітамі ў Італію адпаведна 13 і 15 красавіка. Аб гэтым паведаміў сёння прадстаўнік МЗС Італіі на штотыднёвай сустрэчы з журналістамі.**

**Кіраўнікі ўрадаў Беларусі і Украіны правядуць тут перагаворы са Старшынёй Савета Міністраў Італіі Джуліо Андрэоці і з міністрам замежных спраў Джані дэ Мікелісам. Запланаваны таксама іх сустрэчы з прадстаўнікамі дзелавога свету Італіі.**

### ЛА-МАНШ НЕ ПЕРАШКОДА

КАМЯНЕЦ (**Ю. Фёдарава**). Англійскі вопыт свінагадоўлі будзе выкарыстаны ў саўгасе-камбінаце «Белавежскі». Ён зацікавіў мясцовых жывёлаводаў, якія працуюць на буйным комплексе, адладжанай тэхналогіяй вытворчасці мяса. Выхад прадукцыі на адзінку кармоў у англійскай фірме значна вышэйшы. Ну, а навасёламі на комплексе саўгаса «Белавежскі» сталі некалькі партый англійскіх свіней. На іх адкорме будзе ўкараняцца новая тэхналогія.

Аднак ёсць чаму навучыцца і ў беларускіх жывёлаводаў. У саўгас прыедуць па вопыт англічане.

### ПАДАРУНАК АД КУНАЕВА

Палкоўніку ў адстаўцы — Дзмітрыю Післіякову, які пражывае ў Мінску, днямі прыйшла бандэроль з Алма-Аты. Прыцягнуў увагу адрас адпраўніцеля — Алма-Ата, вул. Тулебаева, 119, кв. 5, Кунаеву Д. А.

У бандэролі ляжала кніга былога партыйнага кіраўніка Казахстана «Аб маім часе», якая зусім нядаўна ўбачыла свет у Алма-Ацінскім кніжным выдавецтве. На тытульным лісце надпіс «Дзмітрыю Яфімавічу з пажаданнямі поспехаў і здароўя. Д. Кунаеў». Палкоўнік у адстаўцы Післіякоў даўно знаёмы з Кунаевым. 25 гадоў афіцэр праслужыў у войсках Туркестанскай ваеннай акругі. Ён таксама з'яўляецца заслужаным работнікам культуры Узбекістана, узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Казахстана.

**В. ЦАСЮК.**

## ЗНАХОДЖАННЕ ДЭЛЕГАЦЫІ БЕЛАРУСІ Ў ФРАНЦЫІ

У сталіцы Францыі з афіцыйным візітам знаходзіцца дэлегацыя Беларусі на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам. Як паведамілі ў аддзеле інфармацыі МЗС рэспублікі, у паездцы яго суправаджаюць міністр замежных спраў Пётр Краўчанка і старшыня Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч.

У сераду С. Шушкевіч сустрэўся з дырэктарам міжміністэрскай місіі па супрацоўніцтву з краінамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы Клодам Віленам. Дэлегацыя была прынята ў Малым Люксембургскім палацы старшынёй сената Аленам Паэрам.

У той жа дзень адбылася сустрэча з прэзідэнтам Французскай Рэспублікі Франсуа Мітэранам. Ва ўрачыстай абстаноўцы Елісейскага палаца кіраўнік беларускага парламента ад імя рэспублікі падпісаў «Парыжскую хартыю для новай Еўропы».

Пасля падпісання двух асноватворных дакументаў Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе — хельсінкскага Заключнага акта ў лютым гэтага года і Парыжскай хартыі для новай Еўропы ў ходзе цяперашняга візіту — Беларусь стала паўнапраўнай удзельніцай хельсінкскага працэсу і нясе роўную з іншымі еўрапейскімі дзяржавамі адказнасць за захаванне бяспекі на Еўрапейскім кантыненце.

Падпісаўшы першай з дзяржаў СНД дакумент, які пачынаецца словамі: «Эра канфрантацыі і расколу Еўропы закончылася», Беларусь разам з іншымі дзяржавамі Еўропы заявіла словамі Парыжскай хартыі, што «з гэтага часу адносіны будуць грунтавацца на ўзаемнай павазе і супрацоўніцтве».

* * *

Супрацоўніцтву паміж Францыяй і Рэспублікай Беларусь дадзены новы магутны імпульс — за два першыя дні афіцыяльнага візіту Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава Шушкевіча ў Францыю дасягнуты цэлы рад пагадненняў аб узаемадзеянні ў розных галінах, перш за ўсё, у гарантаванні ядзернай бяспекі. Аб гэтым паведаміў у чацвер памочнік афіцыяльнага прадстаўніка МЗС Францыі Марыс Гурдо-Мантэнь, які пракаменціраваў праведзеную напярэдадні сустрэчу кіраўніка беларускага парламента з дзяржаўным міністрам, міністрам замежных спраў Францыі Раланам Дзюма.

Гутарка палітыкаў адбылася ў ходзе арганізаванай у гонар гасцей вячэры, у якой з беларускага боку прынялі ўдзел С. Шушкевіч, міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч.

Выступаючы на вячэры, С. Шушкевіч пацвердзіў, што тактычная ядзерная зброя, размешчаная на тэрыторыі яго рэспублікі, будзе перадыслацыравана ў Расію. Ён высока ацаніў аб'яўленае прэм'ер-міністрам Францыі П'ерам Берэгавуа рашэнне часова прыпыніць у гэтым годзе правядзенне ядзерных выпрабаванняў у зоне Ціхага акіяна. Такі крок Францыі можа стаць добрым прыкладам для іншых ядзерных дзяржаў, указаў Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі.

Па выніках сустрэчы бакі падпісалі пратакол аб супрацоўніцтве паміж міністэрствамі замежных спраў абедзвюх дзяржаў, які адкрывае шырокія перспектывы для сумесных дзеянняў на міжнароднай арэне, адзначыў прадстаўнік французскага МЗС.

Падпісанне дакумента аб супрацоўніцтве паміж МЗС Францыі і МЗС Беларусі з'яўляецца сведчаннем асаблівых, канструктыўных адносін паміж дзвюма дзяржавамі, адзначыў у гутарцы з карэспандэнтам ІТАР—ТАСС міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка. У выніку перагавораў з французскімі калегамі мы прыйшлі да дагаворанасці, што Мінск можа ў хуткай будучыні прыняць адзін з інстытутаў, дзеючых у рамках Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. У прыватнасці, гаворка ідзе аб арганізацыі ў беларускай сталіцы штаб-кватэры ўпраўлення вярхоўнага камісара НБСЕ па справах нацыянальных меншасцей, стварыць якое прапанаваў на праходзячай у Хельсінкі канферэнцыі НБСЕ прадстаўнік Нідэрландаў. Вялікую цікавасць для нас мае і набыты ў Францыі вопыт па арганізацыі міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне абароны — у хуткім часе краінам—членам СНД можа вельмі спатрэбіцца прыклад франка-германскага ваеннага ўзаемадзеяння. Бо ствараемыя нацыянальныя арміі рэспублік Садружнасці, маючы перад вачамі правераны часам заходнееўрапейскі прыклад, змогуць лепш пабудаваць узаемаадносіны ў новых палітычных умовах, адзначыў кіраўнік беларускай дыпламатыі.

* * *

«У нашы дні абараняць паняцце СНД стала непапулярным, аднак за той час, што Садружнасць існуе, мая пазіцыя не змянілася — я і цяпер гарачы прыхільнік справядлівай садружнасці сапраўды незалежных дзяржаў». Аб гэтым заявіў у інтэрв'ю карэспандэнту ІТАР—ТАСС Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч, які знаходзіцца ў французскай сталіцы са сваім першым афіцыяльным візітам.

«Нам трэба імкнуцца ўсімі сіламі захаваць той мінімальны саюз, які быў з такой цяжкасцю дасягнуты. Разбураць СНД мы не маем маральнага права — гэты непрадуманы крок прымусіць многіх ісці па свету з працягнутай рукой у пошуках міласціны, у той час калі ўсяго гэтага можна пазбегнуць, выкарыстоўваючы элементарны ўзважаны падыход», — адзначыў кіраўнік беларускай дзяржавы.

«Глядзі ў корань» — гэтай крылатай фразай ацаніў С. Шушкевіч сітуацыю, што склалася цяпер у СНД. «Развал Садружнасці азначае пагаршэнне эканамічнага становішча кожнай з дзяржаў, што ўваходзяць у яе, — сказаў ён. — Гэта не толькі згубна для іх саміх, але і вельмі нявыгадна Захаду, хоць бы па той прычыне, што раз'яднаным рэспублікам значна больш прыйдзецца дапамагаць. Еўрапейскія партнёры добразычлівыя да нас, але і мы павінны калі-небудзь, нарэшце, мабілізаваць уласныя рэзервы. Колькі можна браць, не даючы ўзамен і не спрабуючы паспадзявацца на свае сілы! Складваецца недарэчнае становішча: усе рэспублікі ў адзін голас заяўляюць, што хочуць інтэгравацца ў заходнюю эканоміку, прычым усе гатовы прызнаць сябе больш слабым партнёрам, і ў той жа час развіваць інтэграцыйныя сувязі ўнутры Садружнасці ніхто не спяшаецца. Я, дарэчы, хачу адзначыць, што Беларусь выступае за сапраўды партнёрскія адносіны — мы гатовы плаціць за дапамогу і хочам будаваць сваё жыццё так, каб умець выходзіць з цяжкага становішча самім».

Закранаючы пытанне аб прыналежнасці Чарнаморскага флоту, С. Шушкевіч сказаў: «Калі я глядзеў у мінулы панядзелак трансляцыю VI З'езда народных дэпутатаў Расіі, адразу зразумеў — няма невырашальных праблем. Рашэнне адкласці ўбок непатрэбную паспешнасць і цвяроза падумаць аб вызначэнні далейшага лёсу Чарнаморскага флоту — лагічны вынік разумнага, узважанага падыходу расійскіх парламентарыяў, у чым найвышэйшым інтэлекце я ніколі не сумняваўся. Ва ўсёй гэтай непрыемнай сітуацыі больш за ўсіх пакутуюць маракі, якія аддалі флоту ўсё жыццё і цяпер зведваюць зняважэнне сваёй годнасці. Але ж нельга ўніжаць людзей толькі за тое, што яны з'яўляюцца патрыётамі Расіі або патрыётамі СССР. Беларусь, на шчасце, пазбегла ўсяго гэтага».

ПРАГНОЗ

## Рублёвая прастора: «Чутны гук гапака з далячыняў...»

Нязначныя ваганні курсу амерыканскага долара ў адносінах да рубля, што з'яўляецца характэрнай асаблівасцю сённяшняга валютнага рынку, выклікаюцца самымі рознымі прычынамі, часам незвычайнымі. Напрыклад, в'етнамцы, якія да апошняга часу працавалі ў лёгкай прамысловасці некаторых рэгіёнаў былога СССР, спяшаліся да мяняльных кантор, каб хутчэй пазбавіцца ад сваіх рублёвых заробкаў. Або: з чарговым абяцаннем стабілізаваць рубель выступаў па Расійскаму тэлебачанню Ягор Гайдар — тут ужо да пунктаў абмену спяшалася іншая публіка. Здаючы валюту, яны садзейнічалі кароткачасоваму і не вельмі прыкметнаму паніжэнню курсу долара.

Вызначае ж цяперашні курс наяўнага долара спрэчка паміж двума асноўнымі доўгатэрміновымі фактарамі: інфляцыяй, якая нарастае, нягледзячы ні на якія намаганні ўрадаў, і хранічным дэфіцытам наяўных грошай. З інфляцыяй (павышаючы фактар) усё зразумела: чым вышэй цэны на тавары і паслугі, тым ніжэй курс рубля, а значыць, вышэй у адносінах да яго долар. Што датычыцца дэфіцыту наяўных грошай (зніжаючы фактар), то патрабуюцца некаторыя тлумачэнні.

Але спачатку заўважым, што не хапае не толькі наяўных рублёў, але і безнаяўных. Адна з прычын — ланцуговая рэакцыя ўзаемных неплацяжоў унутры рублёвай прасторы. Другая і таксама немалаважная прычына — застарэлая неадпаведнасць рэальнага кошту наяўных і безнаяўных грошай. Пацвярджэнне гэтага — і частыя ў апошні час аб'явы пра продаж грошай наяўных за безнаяўныя ці наадварот. Каэфіцыент абмену даходзіць да 1,35 — зразумела, на карысць наяўных.

Рэальна ацэньваючы сітуацыю, шмат якія гандлёвыя прадпрыемствы і фірмы, наколькі магчыма, змяншаюць інкасацыю атрыманай наяўнасці ў банк. Як іх не зразумець — здаеш за бясцэнак, гэта значыць адзін да аднаго, а назаўтра паспрабуй выціснуць з таго банка крэдыт. Патрэбнасць жа ў ім у гандлёвых прадпрыемстваў сёння вялікая, як ніколі. А звяртаючыся да іншых контрагентаў, можна знайсці самыя розныя спосабы перавесці наяўныя грошы ў безнаяўныя. Эксперты налічваюць звыш 30 адносна законных спосабаў афармлення падобных здзелак.

Банкі таксама часам затрымліваюць грошы кліента дзеля правядзення сваіх унутраных аперацый. Яшчэ і тлумачаць: грошы, маўляў, у дарозе. Пры гэтым кліент, за выключэннем эстонскага (у рэспубліцы прыняты закон, які дысцыплінуе банкі), фактычна безабаронны.

Пераходзячы да прагнозаў, можна меркаваць, што ў бліжэйшы час на курс долара ЗША ў рублёвай прасторы можа паўплываць доўгачаканы «рублёвы дождж», які пральецца на Расію, Балтыю, Беларусь і іншыя рэгіёны, калі Краўчук выканае сваю пагрозу і забароніць хаджэнне рубля на Украіне. Зрэшты, парламент гэтай рэспублікі не бачыць рэальнай праграмы рэформ, а таму, здаецца, не вельмі настроены мяняць групавы канкан на «самасційны» гапак.

Тым часам і цвёрдая канверсуемая валюта працягвае паступаць у СНД праз рэспублікі Прыбалтыкі. Тамашніх мытнікаў ужо не здзіўляе той факт, што шмат хто ўвозіць вялікую колькасць наяўнай валюты. Сумы даходзяць іншы раз да мільёнаў долараў ЗША. У гэткага роду здзелках часта замешаны былыя нашы суайчыннікі.

**БелаПАН.**

### КУРС ВАЛЮТ ПА СТАНУ НА 8 КРАСАВІКА 1992 ГОДА

**(першая лічба — купля, другая — продаж)**

| | У мяняльных канторах Рыгі | У мяняльных канторах банка «Комплекс» (Мінск) |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 124-136 | 130-136 |
| Марка ФРГ | 71- 82 | 72- 80 |
| Аўстралійскі долар | 76-100 | — |
| Брытанскі фунт | 173-228 | 215-220 |
| Фінская марка | 22- 29 | 25,48-28,84 |
| Японская іена | 0,7- 1 | — |
| Канадскі долар | 84-109 | — |

### ЦЯЖКА, АЛЕ БУДУЮЦЬ

**ГОМЕЛЬ. У наш час шалёных цэн многія прадпрыемствы вымушаны былі закансерваваць будаўніцтва жылля для сваіх работнікаў. На гэтым сумным фоне прыемным выключэннем з'яўляецца станкабудаўнічае аб'яднанне імя Кірава. Яно ўзводзіць зараз тры шматкватэрныя дамы і дабіваецца выдзялення ў рысе горада ста ўчасткаў пад забудову катэджамі.**

**На сёлетні год прадпрыемства мае намер выдзеліць для будаўніцтва жылля 25 мільёнаў рублёў.**

## «Армія цяпер трымаецца на чыстым энтузіязме»

**Гутарка з камандуючым войскамі проціпаветранай абароны рэспублікі генерал-лейтэнантам Вячаславам АСМАЛОЎСКІМ.**

**— Па-першае, вашы войскі цяпер падпарадкоўваюцца Шапашнікаву ці Кастэнку?**

— Зусім нядаўна быў падрыхтаваны сумесны з урадам пратакол аб перадачы ўсіх войск проціпаветранай абароны, размешчаных на тэрыторыі Беларусі, апошняй. Так што ў бліжэйшай будучыні мы павінны поўнасцю адысці пад юрысдыкцыю рэспублікі.

**— Урадам прынята рашэнне аб стварэнні нацыянальнага войска. Якое месца там будзе адведзена войскам ППА?**

— Пра пэўнае месца мне цяпер вельмі цяжка адказаць. Яшчэ не акрэслена наша ваенная дактрына: якія нам узбраенні і войскі патрэбны, а якія — не.

Мне здаецца, што войскам ППА павінна аказвацца асаблівая ўвага. Мы не збіраемся ні на каго наступаць, а вось для абароны без сучасных, мадэрнізаваных войск ППА, вядома, не абысціся. Тут не заклапочанасць асабістым мундзірам ці мундзірам нашых войск. Гэта аб'ектыўная рэальнасць. Мы ў дадатак да сваёй асноўнай задачы—абароны паветраных рубяжоў Радзімы — выконваем шмат функцый, якія па ідэі павінна браць на сябе грамадзянская авіяцыя.

**— З прыярытэтам войск ППА можна згаджацца, а можна не згаджацца, адназначна ж адно —без скарачэння не абысціся і вам. Ці ёсць у камандуючага проціпаветранымі войскамі праграма ўладкавання звольненых ваеннаслужачых?**

— Адразу скажу, такая праграма-мінімум ужо ёсць. Вядома, у першую чаргу, будуць звальняцца людзі, каму няшмат засталося да пенсіі, ваеннаслужачыя, якія не маюць ніякага дачынення да баявога дзяжурства.

Пэўная растлумачальная работа ў войсках ужо ідзе. Трэба папярэдзіць людзей аб будучым скарачэнні.

Мы і самі разумеем яго неабходнасць. У нас шмат дубляжу. Мы дублюем у нейкіх справах паветраную армію, паветраная армія — Беларускую ваенную акругу, БВА—нас. Напрыклад, на дадзены момант у кожнага з трох названых вайсковых падраздзяленняў існуе свой тыл. А навошта нам тры тылы, калі патрэбен усяго адзін? І так можна прайсціся па цэламу шэрагу пытанняў.

Іншая справа, што скарачэнне не павінна праводзіцца цы-ві-лі-за-ва-на, а не так, як, напрыклад, праводзіў яго ў свой час Хрушчоў, які хацеў ледзь не кожнага танкіста пасадзіць на трактар.

Войскі ППА ўкамплектаваны далёка не поўнасцю. Але і тыя афіцэры, што падпадуць пад скарачэнне, без работы не застануцца. У нас вельмі высокая падрыхтоўка. І тое, што наша ППА—лідэр ва ўсёй ППА былога Саюза—гэта таксама аб'ектыўна.

**— Напэўна, і гэта прымушае афіцэраў-беларусаў з іншых рэспублік звяртацца да вас з просьбай аб уладкаванні на тэрыторыі рэспублікі?**

— І гэта, і шэраг іншых прычын. Недзе за сотню такіх афіцэраў мы ўсё ж узялі. Падобных зваротаў цяпер — больш тысячы. Мы не можам цешыць сябе і тых, хто да нас звяртаецца, абяцанкамі-цацанкамі. А ўвогуле гэта вельмі складаная і балючая праблема.

**— Але ж ёсць і афіцэры іншых нацыянальнасцей, якія таксама хочуць паехаць на сваю радзіму?**

— Мізэр. Разумееце, самы сапраўдны мізэр. Пяць ці сем украінцаў-афіцэраў паехалі ад нас да сябе дамоў. Для нагляднасці магу прывесці нацыянальную раскладку афіцэраў, прапаршчыкаў, асабовага саставу нашых войск. Афіцэры: 60 працэнтаў—рускіх, 22—беларусаў, 13—украінцаў. Прапаршчыкі: 60 працэнтаў беларусаў, 20 —рускіх, 15 — украінцаў. Асабовы састаў: 38 працэнтаў беларусаў, прыблізна столькі ж рускіх, астатнія — узбекі з азербайджанцамі.

**— Якая б ні была стабільная і спакойная наша рэспубліка, але ўпэўнены, што апошнія з вашых войск бягуць.**

— Бягуць. І мы стараемся ставіцца да гэтага з разуменнем. Хоць калі сядзець склаўшы рукі і глядзець, як разбягаюцца баявыя разлікі, можна ўвогуле застацца ні з чым і ні з кім. Сённяшнюю сітуацыю ў арміі нельга не назваць развалам, анархіяй. Армія трымаецца, на мой погляд, выключна на энтузіязме асабліва ёй адданых, як ні ачарняюць людзей у ваеннай форме.

Не гібель салдат ці афіцэраў у мірны час асноўная бяда арміі, як гэта спрабуюць цяпер паказаць, а нявызначанасць, няпэўнасць нашага лёсу.

**— І ўсё ж грамадскасць цікавіць больш лёс канкрэтнага, асобна ўзятага ваеннаслужачага, які пайшоў выконваць «святы абавязак», а атрымаў...**

— Добра, прывяду вам канкрэтныя лічбы гібелі ваеннаслужачых у проціпаветраных войсках. 1990 г.—загінулі трое салдат: два самазабойствы, адзін няшчасны выпадак. У той жа год загінулі чатыры афіцэры. 1991 г.—зноў тры смерці сярод радавога саставу: адзін —на глебе нястатутных адносін, адзін—самазабойца на глебе педэрастыі, яшчэ адзін — няшчасны выпадак. Загінулі ў мінулым годзе і тры афіцэры, двое—па віне цывільных асоб.

Мушу запэўніць, што смяротнасць у нашых войсках у 5(!) разоў меншая, чым на «грамадзянцы». Трэба сказаць, аднак, што да 1990 года ў нас было 15—16 смяротных выпадкаў кожны год.

**— Вы гаворыце, у арміі развал. Салдаты іншых нацыянальнасцей бягуць, дык ці могуць цяпер нашы слаўныя проціпаветраныя войскі нас абараніць?**

— Бяжыць недзе дзвесце чалавек у год. Адразу ж, калі справа датычыцца баявога дзяжурства, мы замяняем іх новымі ваеннаслужачымі. Што ж да нашай боегатоўнасці, то магу сказаць, што да нас звяртаюцца Польшча, іншыя краіны былога сацлагеру, хоць спачатку быў поўны разрыў усялякіх сувязей. Ёсць такое паняцце — паветраны калідор. Дык вось, каб яго забяспечыць і кантраляваць, хто і як ім карыстаецца, без паслуг нашых войск ППА не абысціся.

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

